# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**
**Выдае Рада Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы**
**Рэдагуе Калегія, Адрыс Рэдакцыі:** **Цана 1 даляр**
**"The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 41** **КРАСАВІК — 1974 — APRIL** **Год. 20**

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!*



**ТРАПАР НЯДЗЕЛЬНЫ**

Калі гроб Твой каменем залажылі іудэі, і воіны сьцераглі Прачыстае Тваё цела, уваскрос Ты на трэйці дзень, Спасе, адначляючы жыцьцё сьвету. Таму і Сілы Нябесныя ўсклікаюць Табе, Жыцьцядаўца: Слава ўваскрасеньню Твайму, Хрысьце, слава ўладарству Твайму, слава збавеньню Твайму, Адзіны Чалавекалюбча!

# ВЯЛІКОДНАЕ АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## САБОРУ ЕПІСКАПАЎ
## БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

**Дастойнаму Сьвятарству і ўсім Багалюбным Вернікам Божым Народу Беларускага, на Бацькаўшчыне й на чужыне раскіданым.**

**Дарагія й любыя дзеці нашыя духоўныя!**

**ХРЫСТОС УВАСКРОС!**

*А калі-б Хрыстос не ўваскрос, тады й навука наша марная, марная й вера вашая.* (І Карынц. 15-14).

Надыйшла Вялікая Пятніца. Адзінародны Сын Божы упакорыў Сябе, будучы паслухмяным ажно да сьмерці, і сьмерці крыжовай (Філіпянам 2, 8). Цела Збавіцеля паложана ў гроб. Уваход каменем завалены. Каля ўваходу варта пастаўлена. Усё заціхла... Сінэдрыён мае супакой, бо ўжо ня будзе каму палкімі словамі прыпамінаць ім пра бяспраўе. Крывавая расплата зьдзейснена...

Але ня доўга патрываў салодкі сон забойцаў. Пасьля сыботы прыбягае перапалоханая варта й паведамляе пра новы землятрус, пра Ангела й пра камень ад гробу адвалены. Зямная варта каля гробу Госпада скончылася, уступаючы мейсца нябеснай.

ХРЫСТОС УВАСКРОС! — і для ўсяго сьветаўзіраньня распачалася сапраўдная вясна, сьветлая раніца новага жыцьця. Уваскрасеньне Госпада Ісуса Хрыста было першаю запраўднаю перамогаю жыцьця над сьмерцю.

Хрыстос перамог сьмерць, ажыў і гэтым паказаў Апосталам і нам, што Ён Уладар як жыцьця, так і сьмерці. Гэтым Ён паказаў і нам, што Ён мае сілы жыцьця, якіх мы ня маем, якіх не асягаем розумам, але якімі можам карыстацца, згодна слоў Ягоных: „калі будзеце мець веру, то зробіце тое, што Я раблю!"

Пасьля Ўваскрасеньня Хрыстос зьявіўся Жонам Міраносіцам, а потым і Апосталам. Сваім зьяўленьнем Хрыстос напоўніў сэрцы Жонаў нявымоўнай радасьцяй, і Апосталаў узмоцніў сілаю Сваею тварыцьць праз іх цуды, а смутак і роспач вернікаў Сваіх у радасьць і надзею на сьветлую будучыню перамяніў.



Вялікдзень. З асаблівай радасьцяй і ўцехай сустракаўся Дзень гэты ў нас на Бацькаўшчыне, калі адначасна ўся прырода аджывала пасьля доўгага зімовага сну, калі ўсё на вачох узьнімалася, рухалася да новага жыцьця. І ў чалавека адпадалі смутак, гора, ўсякая злаба і ўсё злое; сэрца поўнілася ласкаю, любоўю й радасьцяй.

Гэта — радасьць і сіла перамогі Дабра над злом, Сьвятла над цемраю, жыцьця над сьмерцю, гэта вобраз жыцьця вечнага, нашае несьмяротнасьці! Так, Вялікдзень, гэта мамэнт праяўленьня нам вялікае славы й радасьці, якую душы нашыя могуць успрыняць, хоць розум наш і ня можа ўсяго ахапіць.

Хрыстос Уваскрос і праз гэта паглыбіў ужо ў сучасным жыцьці нашую надзею на прышласьць, якая ёсьць вышэйшаю за зямную: „Калі-ж Дух Таго, Хто ўваскрасіў зь мертвых Ісуса, жыве ў вас, дык Той, Хто ўваскрасіў Хрыста з мертвых, ажывіць і вашыя сьмяротныя целы Духам Сваім, які жыве ў вас" (Рымл. 8,11).

Таму верце й радуйцеся! Радуйцеся так, як некалі радаваўся на Вялікдзень наш набожны Народ, ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі нясучы вітаньні ў захапленьні: ХРЫСТОС УВАСКРОС! РАДАСЬЦЬ ВЕЧНАЯ!

Няхай-жа Вялікодная радасьць зьзяе ў сэрцах вашых! Няхай душы вашыя разам з Ангеламі, Жонамі Міраносіцамі й Апосталамі ў небе прабываюць і натхнёна ўсклікнуць: Запраўды Уваскрос! Уваскрос Той, Хто пякельную моц перамог, пераможам і мы свае беды, болі, няволю й цярпеньні нашых Братоў і Сёстраў на Бацькаўшчыне. Няхай гэтыя сьветлыя надзеі, якія прыносіць Хрыстове Ўваскрасеньне, запаланеюць у сэрцах нашых. Няхай будуць уцехаю для тых, хто сумуе, хто нясе цяжкі крыж, для тых, якія церпяць за Любоў Божую да Народу нашага: людзям навукі, культуры і ўсім мучанікам нашае Маці Беларусі.

З гэткаю вераю й надзеяй вітаем Вас, Усячэсныя Айцы, любыя Браты й Сёстры і ўвесь наш Народ з Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам перамогі й трыумфу Неба й Зямлі, бязьмежнай Міласьцяй Божай для нас — з УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ, ВЯЛІДАКНЕМ!

Радуймася й весялемся! З глыбіні сэрца натхнёна сьпявайма Хвалу Богу. Хрыстос Уваскрос! Уваскросьне й нашая Маці Беларусь на радасьць, шчасьце й збавеньне нашае, бо для гэтага Ён і з Неба зыйшоў, памёр і Ўваскрос!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца й прысутнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі Вамі. Амін.

Лета Божага 1974.

**✠ Пакорны ў Богу Мітрапаліт Андрэй**
**✠ Пакорны ў Богу Епіскап Мікалай**

*З УВАСКРАСЕНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ*

*вітаем*

*Высокадастойных Уладыкаў нашых*

*Мітрапаліта АНДРЭЯ*

*Епіскапа МІКАЛАЯ*

*Часное Сьвятарства, Рэгентаў і Харыстых,*

*Грамадзкія й Навуковыя ўстановы, Вернікаў БАПЦарквы*

*і ўвесь Беларускі Народ на чужыне й на Бацькаўшчыне.*

*ХРЫСТОС УВАСКРОС — ЗАПРАЎДЫ УВАСКРОС!*

*Рада БАПЦарквы*

# УВАСКРАСЕНЬНЕ ХРЫСТОВАЕ

Апостал Паўла ў сваім пасланьні да Карынцянаў кажа: „А калі Хрыстос не ўваскрос, — марная тады вера вашая: вы яшчэ ў грахох вашых... А калі мы толькі з узгляду на сучаснае жыцьцё спадзяёмся на Хрыста, то мы самыя няшчасныя з усіх людзей (І Кар. 15, 17-19).

У хрысьціянскай навуцы ўсё грунтуецца на веры ў Хрыстовае Ўваскрасеньне. Бяз веры ў Уваскрасеньне Хрыста — заснавальніка хрысьціянскае рэлігіі й Царквы — нельга мець спалучэньня з Богам.

Хрыстос Уваскрос. Гэтая падзея сьцьверджана навочнымі сьветкамі, якім зьявіўся Уваскросшы Хрыстос, і гэтая ява асьвяціла ўвесь сьвет Нягаснучым Сьвятлом вечнага жыцьця. Хрыстос Уваскрос, і цяпер духова ўваскрашае тых, хто з вераю й пакораю зварачаецца да Яго. Хрыстос Уваскрос, і нас абдарыў усімі дабротамі, неабходнымі для жыцьця й шчасьця на зямлі.

У сваім часе фарысеі й садукеі высіляліся падарваць веру ў Сына Божага, як Месіі й Збавіцеля Сьвету. Дабрадзейныя дачыненьні Хрыста да людзей, пагарджаных кніжнікамі й фарысеямі, закіды, што „Ён прыймае грэшнікаў і есьць разам з імі" (Лук., 15-2), спакусьлівая навука садукеяў, якія казалі: „няма ўваскрасеньня ўмершых (Марк., 12-18) — усё гэта тварылася ворагамі Хрыста супроць Ягонага Нябеснага Пасланства.

Навет апосталы, быўшы вучнямі Хрыста, ня мелі цьвёрдасьці веры ў Месію, як Збавіцеля Сьвету. Эвангеліст Мацьвей досыць выразна апавядае пра няпэўнасьці й хістаньні апосталаў. На пытаньне Збавіцеля, „за каго вы Мяне лічыце?", вучні вуснамі апостала Пятра адказалі: „Ты Хрыстос — Сын Бога жывога". Але, калі Госпад адкрыў апосталам, што „Яму належыць ісьці ў Ерусалім, адцярпець мукі ад старшыняў, вышэйшых сьвятароў і кніжнікаў, і што Яго заб'юць, пахаваюць, і на трэйці





дзень уваскросьне, — той-жа апостал Пётра, адклікаўшы Хрыста, пачаў, як кажа Эвангеліст, угаворваць Яго: — пашкадуй сябе Госпадзе, няхай ня станецца гэтага з Табою (Мацьв., 16, 13-22). З гэтых слоў вынікае, што ў апостала Пятра выявіўся зямны ўзгляд на місію Хрыстову. Дзеля таго ён пазьней навет тры разы адракаўся ад свайго Настаўніка, хоць потым і пакаяўся ў гэтым.

Мукі й сьмерць Хрыста на крыжы таксама не маглі расчыніць вачэй апосталам, што Ён запраўды ёсьць Богачалавекам. Але, з волі й бясконцай любові Бога Айца да чалавечага роду, Хрыстос Уваскрос, каб увесь сьвет уверыў у Яго, як у Сына Божага й Збавіцеля.

Уваскрасеньне Хрыста адкрыла сэнс Ягоных ахвярных мукаў і сьмерці й разьвеяла ўвесь сумліў у Яго Боскай Усемагутнасьці. З Уваскрасеньнем Хрыста сьвет атрымаў рэлігійную радасьць і веру ў няўміручасьць вечнага жыцьця. Цяпер усё імкнецца да Сьвету вечнага, усё жадае абнаўленьня. Ад Уваскрасеньня Хрыста распачалася новая эра, сталася поўная надзея на агульнае ўваскрасеньне й абнаўленьне ўсяго сьвету. Пра надзею гэтую сьветчыць уся гісторыя хрысьціянства, якая адзначаецца непахісным імкненьнем чалавека да духовага ўдасканаленьня, абноўленага ўзгляду на ўсё тварэньне й прыроду. У струмені зьявішчаў, якія складаюць зьмест гістарычнага працэсу, прысутнічае Сам Хрыстос, спалучаючы ўсё людзтва, усю зямлю з сваім Целам, якім ёсьць Царква. З малое каморкі напачатку, у форме нялічнай грамады першых хрысьціян яна стала разьвіваецца й ахоплівае сабою ўсіх людзей у адзін Богачалавечы арганізм.

Але злучэньне ўсяго людзтва ў адно Цела Хрыстовае — працэс цяжкі, і патрабуе працяглага часу. Навука Хрыстовая, абаснаваная на любові, заклікае да абнаўленьня жыцьця па ўсім сьвеце, але вельмі павольна ўспрыймаецца людзьмі. І гэта таму, што сярод сучасных хрысьціян у іхным жыцьці й дзейнасьці заўважаецца шмат фактаў супраціву Ягонай волі, Ягонай любові й заклiку да ладу й супакою.

Падзеі й факты з жыцьця людзкога — нястрыманасьць, варожасьць, мана, распуста, зьнявер'е, бязбожжа, беды й мукі людзей, — як цені новых крыжоў на Галгофе, на якіх зноў укрыжоўваецца і ўмірае Хрыстос, Збавіцель сьвету.

Але мы не павінны ўпадаць у роспач і безнадзейнасьць, бо Ўваскросшы Хрыстос даў нам усё неабходнае для пабожнага жыцьця, перадусім даў нам дух любові, дзеяньне якога можа дапамагчы пакрыўджанаму чалавеку пралажыць шлях да Новага Неба і Новай Зямлі, дзе знаходзіцца праўда. Апостал Пётра кажа: „Мы-ж чакаем паводля Ягонага абяцаньня Новага Неба й Новай Зямлі, на якіх праўда жыве" (ІІ Пятра, 3, 13).

Хрыстос ня сукрыў ад нас таго, што нас чакае. Ён сказаў: „На сьвеце скруху мець будзеце, але мацуйцеся — Я перамог сьвет (Ян, 16-33).

Хрыстос заўсёды гатовы даць нам перамогу над уладаю „Сьвету гэтага" і ня толькі гэта. Хрыстос дае веручаму ў Яго — жыцьцё вечнае: „І Я даю ім жыцьцё вечнае, і не загінуць да веку" (Ян, 10-28).

Хрыстос Уваскрос, і мы зноў і зноў радуймася, бо ў Сьвятле Ўваскрасеньня перад намі адчыняецца новы, ясны сьвет, не засмучаны ні грахамі ні мукамі.



# ПРЫВІТАНЬНІ

атрыманыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой з нагоды Хрыстовага Нараджэньня:

**I. Ад Усяленскага Патрыярха Дымітрыёса I:**

RUM PATRIKHANESI, H. Feher-Istanbul, Turkiye
HIS EMINENCE THE MOST REVEREND
METROPOLITAN MGR. ANDREW
3517 West 25th Street, Cleveland, Oh. 44109, U.S.A.

(Пераклад — арыгінал у стара-грэцкай мове)

Дакумэнт № 936

Высокапраасьвячэньнейшы Ўладыка Мітрапаліт Андрэй!

Хай ласка Ўсявышняга й мір Божы будзе з Вамі.

З любоўю атрымаўшы Вашы добрыя пажаданьні мы хочам выказаць нашу ўдзячнасьць і нашы сардэчныя братнія прывітаньні й пажаданьні Вам шчасьця і ўсякай удачы ў гэтыя ўрачыстыя й вялікія сьвяточныя дні. Няхай ласка й сьветласьць нованароджанага для сьвету Госпада й Спаса нашага Ісуса Хрыста будзе з Вамі.

На Новы Год Збаўленьня мы молім Бога, каб год гэты быў повен чынаў пацехі, карысьці й настаўленьня для вернікаў, а такжа радасьці, супакою і ўсякага дабра для Вашага Высокапраасьвячэнства.

Мы сардэчна вітаем Ваша Высокапраасьвячэнства ў радасьці Ісуса народжанага ў Бэтлееме — хай-жа ласка Ягоная й бязьмежная міласьць будзе з Вамі.

КАЛЯДЫ 1973 Ваш брат у Хрысьце **Усяленскі Патрыярх**

**II. Іншыя прывітаньні — зьмест, з недахопу месца, не падаецца:**

1. Nicolaos VI, Pope and Patriarch of Alexandria and all Africa.
2. Ieronymos, Archbishop of Athens and all Greece.
3. Мітрапаліт Мсьціслаў, Украінская Праваслаўная Царква ў Амэрыцы.
4. Мітрапаліт Міхаіл, Украінская Праваслаўная Царква ў Канадзе.
5. Metropolitan Orestes P. Chornock, American Carpatho-Russian Greek Catholic Church.
6. Metropolitan Michael Shaeen, Antiochian Archdiocese of Toledo, Ohio, and Dependencies.
7. Епіскап Ірыней, Сэрбская Праваслаўная Царква ў Амэрыцы.
8. Епіскап Дзімітры, Свабодная Сэрбская Праваслаўная Царква ў Аўстраліі й Нова Зэляндыі.
9. Rt. Rev. Valerian D. Trifa, The Romanian Orthodox Episcopate of America.



# УСЯЛЕНСКІ ПАТРЫЯРХ ЕРАМІЯ II НА ВІЗЫТАЦЫІ У ЛІТОЎСКАЙ ДЗЯРЖАВЕ

**(З гісторыі Праваслаўнае Царквы Наваградзкае Мітраполіі)**

Галоўнаю мэтаю падарожжа Патрыярха Ераміі на Ўсход у другой палавіне 16-га ст. было аздараўленьне царкоўна-праваслаўнага жыцьця.

У пачатку месяца травеня 1588 году Патрыярх Ерамія, затрымаўшыся на граніцы Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага, зьвярнуўся да польскага канцлера Яна Замойскага, каб дазволіў затрымацца ў яго маёнтку Замосьці. Замойскі яго прыняў і выстараўся дазвол ад караля на праезд праз Вялікае Княства Літоўскае ў Маскву. Атрымаўшы дазвол, Патрыярх праз Берасьце накіраваўся ў Вільню. Праваслаўныя ўсюды спаткалі яго з вялікаю радасьцю й апавядалі яму свае беды й крыўды. У Вільні Патрыярх затрымаўся каля 12-ці дзён, зацьвердзіў існуючае ў Сьвята-Троіцкім манастыры брацтва з адчыненай там школаю й друкарняю, ды выдаў распараджэньне на яго захаваньне й росквіт у будучыні. Кароль-жа гэтае распараджэньне зацьвердзіў толькі за год, 21-га ліпеня 1589 г.

З Вільні Патрыярх праз Воршу й Смаленск паехаў у Маскву, здабываць сяродкі для аднаўленьня разбуранае туркамі Канстантынопальскае Катэдры. У Маскве Патрыярх затрымаўся на працягу цэлага году, а ўлетку 1589 году прыехаў ізноў у Вільню. Адсюль Патрыярх разаслаў граматы да ўсіх Епіскапаў Мітраполіі, у якіх пісалася: „Мы чулі ад шматлікіх дастойных князёў, паноў і праваслаўных хрысьціян, і самі сваімі вачыма бачылі, што ў вас „дваяжэнцы" і „траяжэнцы" правяць сьв. Літургію; я загадаў такіх пазбавіць сану, а Епіскапу Пінскаму загразіў пазбаўленьнем сану за тое, што ён затойваў такіх сьвятароў у яго Епархіі".

Для аздараўленьня праваслаўнага жыцьця ў Мітраполіі ў 1589 годзе ў Вільні быў скліканы Сабор Архіпастыраў і вернікаў. На Саборы й было пацьверджана распараджэньне Патрыярха на выключэньне з царкоўнай Ерархіі й клеру ўсіх „дваяжэнцаў" і „траяжэнцаў", да якіх належаў і сам Мітрапаліт Анісіфар Дзевачка, які таксама быў пазбаўлены Мітрапалічае Катэдры. У гістарычнай літаратуры, аднак, існуе зацемка, што Мітрапаліт Анісіфар сам зрокся Мітрапалічае Катэдры, а ня быў пазбаўлены. За довад гэтаму ўзяты факт, што ў грамаце караля Сьцяпана Баторага з 27 ліпеня 1589г.нічога не ўспамінаецца пра пазбаўленьне Анісіфара Мітрапалічае Катэдры, а толькі ўспомнена пра „запусьценьне" Мітраполіі ў часе Мітрапаліта Анісіфара (прыпушчэньні праф. Каяловіча). Аднак згодна іншых гістарычных вестак, напрыклад, аўтара часапісу Львоўскага Брацтва „Перасьцяргогі", сьцьверджана, што Патрыярх Мітрапаліта Анісіфара „дваяжэнца" з Мітрапалічага Прастолу зьняў. У тым-жа часапісе гаворыцца яшчэ й пра тое, што пазбаўленьне Анісіфара сану было даканана Саборам, і дэкрэт пазбаўленьня быў падпісаны ня толькі Патрыярхам, але і ўсімі Епіскапамі, якія былі на Саборы, бо адначасна з пазбаўленьнем Анісіфара Катэдры быў пастаўлены на Мітрапаліта Міхаіл Рагоза (Іван Власовскі. Нарыс Гісторыі Ўкраінскае Царквы, том. I, бал. 201-202).

На тым-жа Віленскім Саборы разглядалася справа бясправнага прыезду сьвятарства з іншых краінаў. Пастаноўлена ня ўпускаць іх у Мітраполію, а тым, хто ўжо знайходзіцца на абшары Літоўскай Мітраполіі, за-

## РЭЗЫГНАЦЫЯ ПЕРШАГЕРАРХА ГРЭЦКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

Першагерарх Грэцкае Праваслаўнае Царквы Архіепіскап Геронім зрэзыгнаваў з кіравецтва царквою. Прычынаю рэзыгнацыі, дапушчальна, былі яго дамаганьні, каб Архіепіскап Макарыос, Першагерарх і Прэзыдэнт Кіпру зрокся або архіпастырскага, або прэзыдэнцкага становішча.

Рэзыгнацыя Архіепіскапа Героніма была прынята 19-га сьнежня 1973 году.

---

бараніць усякую адміністрацыйную й літургічную дзейнасьць.

З Вільні Патрыярх накіраваўся ў Супрасьлеўскі манастыр, дзе адбыўся працэс над архімандрытам Цімахвеем Злобаю, якога пасьвяціў у архімандрыты Архіепіскап Ахрыцкі Гаўрыіл. Зьявіўшыся ў 1582 годзе ў Супрасьлеўскі манастыр, ён затытулаваў сябе Патрыярхам Баўгарыі, Сэрбіі й Малдавіі й раздаваў тут розныя няпраўныя чыны й нагароды. Патрыярх абвінаваціў Злобу ў забойстве чалавека й пазбавіў яго сану.

6-га жнівеня 1589 г. Патрыярх разам з Мітрапалітам Рагозаю й Епіскапамі: Пінскім, Уладзімерскім, Луцкім і Холмскім прыехалі ў Берасьце. Адразу пасьля прыезду была адпраўлена Божая Служба й адбылася інтранізацыя Кірылы Тэрлецкага на Епіскапа Луцкага й Астрожскага й наданы яму тытул Патрыяршага Экзарха.

З Берасьця Патрыярх зноў заехаў у Замосьце да канцлера Замойскага, у якога гасьціў перад выездам у Маскву. У Замосьці затрымаўся каля двух месяцаў, а потым пераехаў у Тарнопаль, дзе адбыўся Сабор Епіскапаў бяз удзелу Полацкага й Перамышлеўскага, якія напэўна ўжо ня былі жывымі. Гэта быў 5-ты з чаргі Сабор з удзелам Патрыярха. На ім разглядалася справа Львоўскага Епіскапа Балабана, які бяспраўна заўладаў Ануфрыеўскім манастыром Львоўскага Праваслаўнага Брацтва Пастанова Сабору была на карысьць Брацтва, бо Брацтва мела Стаўрапігіяльную грамату, згодна якое манастыр падлягаў беспасярэдня Патрыярху.

Выдаўшы некалькі грамат, Патрыярх у канцы 1589 году ад'ехаў у Канстантынопаль. Належыць адзначыць, што прыезд у Вялікалітву Патрыярха, адбытыя з яго ўдзелам Саборы, пазбаўленьне на Саборы Мітрапалічае Катэдры Анісіфара Дзевачкі, патрыяршыя граматы ды іншыя патрыяршыя мерапрыемствы для аздараўленьня праваслаўнага рэлігійнага жыцьця, — усё разам узятае спрычынілася да ажыўленьня дзеяньня Мітраполіі. Гісторыкі падкрэсьліваюць, што на развой дзейнасьці ў тым часе ўплыло саборнае вырашэньне царкоўных спраў, у чым Патрыярх паважна спрычыніўся для аднаўленьня ладу ў Праваслаўнай Царкве. Аднак, не на доўгі час.

Як ведама з гісторыі, незадаўга, у 1596 годзе, быў скліканы Сабор ў Берасьці, на якім таксама быў прысутны Экзарх Канстантынопальскага Патрыярха Архідыякан Нікіфар. Ён заўзята бараніў праваслаўных, бо бальшыня тагачасных Ерархаў начале з Мітрапалітам Рагозаю перайшлі ў вунію. Пры падтрымцы караля і ўрадавых чыньнікаў вунія была прагалошана, а экзарх Нікіфар польскім сэймам засуджаны на ссылку ў Марыенбурскую цытадэлю, дзе й памёр, дапушчальна з голаду.



# НЕКТАРЫЙ

**Благавешчанскі Сабор у Супрасьлі быў заснаваны ў 1503 годзе, у 1557 годзе яго аздобіў фрэскамі сэрбскі мастак Нектарый.**

(З хронік)

З іконаў вочы сьвятых глядзяць з дакорам і ласкава, асуджаюць і клічуць, з недасяжнай усеабыймаючай мудрасьцю дзівуюцца ўчыненаму чалавечаму злу, і абяцаюць яму адпушчэньне грахоў. А ў іх цёмнай глыбіні тоіцца тая бязьмежная слодыч вечнасьці, пра якую ў глухім куточку кожнай людзкой душы хаваецца нейкая надзея, кволенькае спадзяваньне, але такое прывабнае, захапляючае, сьвятое.

— І не выпадкова далі яму імя Нектарый, значыць салодкі, прыемны, — заўважае з задумаю ў голасе архімандрыт Сергій Кімбар — і, сочачы за зьвітнымі рукамі манаха — мастака, зьвяртаецца да гетмана Рыгора Хадкевіча, які таксама не адрывае сваіх вачэй ад пэндзля Нектарыя. — Ваша вялікасьць, мы, інакі ўбогія, хараством несказаным спакушаныя, заказалі ў Нектарыя іконы на ўвесь сабор, а золата ў нашай каліце небагата. Плаціць ня будзем мець чым.

Гетман глянуў на дабравідны твар архімандрыта і ўсьміхнуўся з гэтай просталінійнай хітрасьці.

— Нічога, войча, і ваша каліта не такая ўжо бедная, але й я не паскуплюся. Гэта-ж тут, у падзямельлі, грабніцы маіх бацькоў пакояцца.

Змрок у царкве гусьцеў і звольна падымаўся ўверх, затапляў стралістыя злучыны зводу. Нектарый ужо зьбіраў свае пэндзьлікі й гладышы з фарбамі. Гетман і архімандрыт выйшлі на царкоўную паперць.

Чырвонае кола майскага сонца кацілася за вяршаліны лесу, а з даліны ракі Супрасьлі падымалася лёгкая плянка туману. Навакольле стогаласіла птушыным сьпевам.

Хоць да Заблудава, палацу магнатаў Хадкевічаў, усяго васемнаццаць вёрст, і коні былі-б там яшчэ перад зьмяркацьнем, гетман рашыў пераначаваць у манастыры. Гетманскі кухар, які ніколі не разлучаўся з сваім панам і дома, і ў дарозе, пакорпаўшыся ў багатых манастырскіх кладоўках і патупаўшы на архімандрыцкай кухні, падаў на стол печанага дзікага селезьня з грыбным надзяваньнем, агромністага язя ў студзені, сакавітую вэнджаную ласяціну, грудзістыя курапаты на ражне, стары сычаны мёд — усё манастырскія спакусьлівыя ласункі.

Гетман загадаў прасіць да стала архімандрыта Сергія й мастака Нектарыя.

Айцец Сергій лішне не аднекваўся ад скаромнага — было ўжо па Вялікадні. А ў Нектарыя дык аж вочы загарэліся. Расправіўшы сваю кучаравую чорную бараду ды закасаўшы шырокія рукавы манаскай сутаны, ён ня даўся доўга ўпрошвацца й зараз-жа, абабраўшы мясістую грудзінку курапаткі, не марудзіў пацягнуць парадкам мёду з чары.

Пяціфунтовая васкавая сьвяча кідала палахлівыя блікі на голыя сьцены манаскай кельлі й яе простую чорную мэблю. За вузенькім акенцам час ад часу адзывалася калякотка манаха-вартаўніка ды ў лазьняках над Супрасьлю вухкала начная птушка — бухала.

Нектарый, добра перакусіўшы, расказваў: — У Сэрбіі ў нас жыцьця няма. Бязбожныя туркі-сарацыны за сто год свайго панаваньня ўсю кроў з нас высмакталі. За кожную дробязь, або галаву на калодку, або ў ясыр на вечную пагібель... Да маляваньня ў мяне змалку схільнасьць была.

Я-ж паходжу з гораду Нагарычына. Бацька мой мулярам быў. Пакуль яго туркі не пагналі ў далёкую Сінопу цьвердзі будаваць, ён хаты людзям у Нагарычыне клеціў. І мяне з сабою браў, каб я рамястру прывучыўся. Матуля мая рана памерла, што я й ня помню. А калі бацьку забралі, дык я й зусім сіратою застаўся. Прыгалубіў мяне наш царкоўны кціар, а сьвятар, маю здольнасьць да маляваньня звочыўшы, прасіў абнавіць іконы й фрэскі ў царкве, што яшчэ коштам нашага цара Мілюціна ў 1313 годзе пабудавана была. Прыгожыя, цудоўныя там фрэскі. Асабліва постаць Юрыя, заступніка царквы.

— Сьвятога Юрыя, — паправіў айцец Сергій.

— Так, над абнаўленьнем фрэскі сьвятога Юрыя я працаваў бадай 3 месяцы. А калі ўсе фрэскі й іконы па-ранейшаму зазьзялі сваім хараством, царкву наведаў мясцовы турэцкі ўраднік — бей. Хадзіў па царкве й цмокаў тоўстымі губамі. А потым да мяне: „Мой новы гарэм мае гладкія сьцены, але голыя. Мае-ж новыя сэрбскія наложніцы вельмі любяць рэчы прыгожыя. Ты зразумеў?...” У тую-ж ноч кціар і сьвятар, ткнуўшы мне ў рукі пару манэт ды клунак сякой-такой адзежыны, кажуць: „Ня губі душы свае хрысьціянскай, не аддавай таленту свайго гэтаму паганаму распусьніку! На сьвятую гару Афон бяжы. Там толькі твой адзіны ратунак”.

Сьвяча ліла свае духмяныя сьлёзы, а ў акенца заглядаў серп маладога месяца.

Панавала такая цішыня, як у Хіліндарскім манастыры на Афоне пасьля брацкай вячэры. У такія ночы Нектарый любіў узабрацца на ўзвышша, што цягнулася самай сярэдзінай Афонскай паўвыспы, і глядзець на Эгейскае мора. У халодным бляску месяца марская хваля прагна накідвалася на прыбярэжныя скалы, як быццам хацела іх скрышыць і паглынуць. І Нектарыя апаноўваў жах. „Што-ж ты значыш, кволенькая лапінка хрысьціянства, у гэтым моры магамэтанскага засільля?! — зьвярнуўся ён да Афонскай манаскай рэспублікі. — Цябе ўсяго пяцьдзесят вёрст удаўжкі й паўвярсты ўпапярок. Церпіць цябе крывяжэрны султан толькі да таго часу, пакуль не апусьцелі ад золата патайныя кладоўкі манастыроў, і ты штогод адпраўляеш у Істамбул непасільны гарач, якім адкупляешся ад сьмерці. А што будзе з табою, калі золата ня стане ў кладоўках”. Пра гэта проста не хацелася думаць.

Пасьля заканчэньня прац у сэрбскім Хіліндарскім манастыры, яго запрасіў ігумен Панцелейманаўскага манастыра таксама абнавіць іконы. У часе платы ён сказаў Нектарыю: „Вялікі дар маеш, брат Нектарый, багаты дар. А вось у Вялікім Княстве Літоўскім, у нашай праваслаўнай абіцелі Супрасьлі, новая царква ўзьведзена, ды няма каму яе аздобіць. Можа адважышся?” Нектарый думаў доўга, можа тыдні тры, а потым рашыўся.

Прабірацца ў няведамы Супрасьль давялося акружнаю дарогаю: плысьці па морах Эгейскім, Крыцкім, Адрыятычным у Венецыю, а затым брысьці цераз Вену, Кракаў, Варшаву. Месяцаў чатыры тоўкся, але ўсё-ж у Супрасьль трапіў. І навет падарунку ня страціў, што ігумен Панцелейманаўскага манастыра для абіцелі Супрасьлеўскай ахвяраваў. Быў гэта тоўсты й цяжкі старажытны, недзе з адзінаццатага стагодзьдзя, рукапіс кірылаўскім пісьмом.

— Пакажы, войча, падарунак, — Хадкевіч спыніў апавяданьне Нектарыя.

Айцец Сергій замітусіўся, скрыпнуў дз.вярыма, і праз нейкую хвіліну ў руках гетмана спачыла ёмістая кніга ў скураным пераплёце. Хадкевіч гартаў яе тоўстыя пажаўцеўшыя ад даўнасьці лісты, любаваўся загалоўнымі літарамі, віньетамі, роўным і выразным пісьмом.

— Цудоўная рэч! — ня ўстрымаў ён свайго захапленьня.

Разышліся спачыць далёка пасьля поўначы. У лозах над Супрасьлю галасілі салаўі.

Нектарый працаваў усю весну, лета й восень 1557 году. Толькі, калі першыя прымаразкі пабілі ў манаскім агародзе крапіву, у звонкі кастрычніцкі золак прыслужнікі падвялі пад нізенькія дзьверцы яго кельлі пару коней: аднаго пад сядлом, другога з прытрочанымі мяхамі. Нектарый зьбег па стромкіх усходнях, паправіў мяхі на кані. Нябачна для прыслужнікаў кануў тугі мяшочак, што пакоіўся пад кашуляю на яго грудзях. Усьміхнуўся сам да сябе: „А ўсё-ж не пакрыўдзілі. Будзе з чаго год некалькі жыць — усе манэты залатыя.

Архімандрыт Сергій выйшаў са свае абіцелі пазяхаючы й з падпухшымі ад сну вачыма.

— Шчасьлівай дарогі табе, сыне. Калі на Афон прыбудзеш, пакланіся ад нашай лаўры Супрасьлеўскай усім тамашнім месцам знатным.

А калі за манастырскімі варотамі заглох тупат конскіх капытоў, айцец Сергій падняўся на паперць царквы, шырока расхінуў дзьверы і ў соты мо раз пачаў любавацца фрэскамі.

Вочы сьвятых глядзяць з дакорам і ласкаю, асуджаюць і клічуць, з недасяжнай усеабымаючай мудрасьцю дзівуюцца ўчыненаму чалавекам злу і абяцаюць яму адпушчэньне грахоў.

---

У ліпені 1944 году нямецкі камандзір аддзелу зьнішчэньня ня здолеў вытрымаць сілы дакору гэтага зроку. Загадаў мінёрам раскласьці пад сьценамі ўнутры царквы пакункі з дынамітам. Тыя, глянуўшы з-пад ілба на фрэскі Нектарыя, найбольшы пакунак паклалі пад постацяй Юрыя. Яна была найпрыгажэйшая. Ціхую й пагодную ліпнёвую раніцу разарваў скрыгатлівы выбух і асьляпіла шэра-чорная хмара дыму й попелу.

Так, Нектарый — значыць салодкі, прыемны.

**Мікалай Гайдук**

„НІВА” Нр. 5 (936)

(„НІВА” — тыднёвая беларуская газэта Беласточчыны — Рэд.).

# “ПРАВАСЛАЎЕ У БЕЛАРУСІ СЯНЬНЯ”

Чытачы нашага часапісу часамі выказваюць жаданьні, каб часьцей падавалася ў часапісе пра рэлігійнае й царкоўнае жыцьцё на Бацькаўшчыне. Зразумела, што ня толькі некаторыя, але й кажны Беларус на чужыне рад пачуць пра жыцьцё на Бацькаўшчыне — і рэлігійнае й сьвецкае. Нажаль, даведацца дакладней пра стан царквы на Беларусі, таксама, як і ў іншых краёх за зялезнай заслонай, немагчыма. Статыстычных дадзеных, скажам, пра лічбовы стан цэркваў ці сьвятарства нідзе не падаецца. Ніхто-ж там на Бацькаўшчыне не адважыцца зьбіраць гэтыя дадзеныя, бо за гэта трапіў-бы ў той засьценны бальшавіцкі „гулаг”, ці іншым парадкам зьняволены. А ў падсавецкай прэсе вельмі часта падаюцца факты брутальнай антырэлігійнай акцыі, а таксама й факты судоў над вернікамі. У прэсу-ж, якая скіроўваецца за межы СССР, падаюцца цалкам фальшывыя насьвятленьні пра рэлігійны стан у краі. Характэрны пад гэтым паглядам артыкул пратаерэя Вайтовіча, зьмешчаны ў спэцыяльнай, прызначанай за межы, агітцы-газэтцы „Голас Радзімы” (Нр. 25, чырвень 1973).

Назваўшы свой артыкул „Православие в Белорусии сегодня”, пратаерэй Вайтовіч замест пісаць пра „сёньня”, пачынае з гісторыі ад самага пачатку хрысьціянства, падае гісторыю нашае царквы ў фальшывым сьвятле, займаючы гэтым трацiну свайго артыкулу. Гаворачы пра нямецкія зьнішчэньні на Беларусі ў другую сусьветную вайну й выказваючы жаль за народ, піша далей:

„Пасьля вайны Маскоўская патрыярхія, у асобе патрыярха Сергія, выявіла вялікую ўвагу да шматпакутнай беларускай паствы. Сюды былі пасланыя „опытные” епіскапы. Ня проста было разабрацца ў складзеных паваенных абставінах, тымбольш, што сярод праваслаўнага беларускага сьвятарства зьявілася нямала сьвячэнаслужыцеляў, насьлех пасьвячаных у часе акупацыі, часта неадпаведных да кананічных нормаў і высокага прызначэньня пастырства”.

Так, прызначэньне пастырства высокае, але мана Вайтовіча зусім нізкая. Тое, што немцы пад зьверхніцтвам Гітлера пачынілі вялікія зьнішчэньні на Беларусі — ведама ўсім. Але добра ведама й тое, якія зьнішчэньні пачынілі на Беларусі бальшавікі. То-ж гітлерызм і бальшавізм блізкія сваякі, дзецішчы адзінага пачатку — зла. Але розьніца між імі тая, што немцы ня цікавіліся нашаю царквою й не перашкаджалі, калі яна адбудоўвалася пасьля бальшавіцкіх разгромаў. І царква адбудавалася. Адчыняліся яшчэ не зруйнаваныя храмы, рамантаваліся абадраныя й зьняважаныя; гуртаваліся людзі каля царквы й клікалі сьвятароў; у канечнай патрэбе, пасьвячаліся новыя сьвятары. І не Маскоўскай патрыярхіі, ці яе стаўленікам, разважаць пра кананічнасьць царкоўную, калі іхную адпаведнасьць да кананічнасьці ўсталяюць разбуральнікі царквы — крамлёўскія валадары. Памінуў Вайтовіч маўчаньнем і факт абвешчаньня аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы ў 1942 годзе. І ці кананічна пратаерэю Вайтовічу так бессаромна лгаць?! Ні слогам не азваўшыся пра стан праваслаўя на Беларусі, пратаерэй Вайтовіч, пахваляючыся сучасным станам рэлігіі ў СССР, піша далей:

„Складаючы адну Ўсерасійскую царкву, нашы беларусы служаць ня толькі ў родных местах, але і ў шматлікіх прыходах іншых рэспублік, а таксама нясуць паслушаньне Маскоўскай патрыярхіі за рубяжом нашай радзімы” — і пералічае беларускіх сьвятароў і прафэсараў: — Архіепіскап Горкаўскі й Арзамаскі Флавіян; епіскап Багалеп Анцуг Кіраваградзкі (на Украіне); архіепіскап Ляонці Бондар — упраўляе Аранбурскай епархіяй; епіскап Саратаўскі й Волгаградзкі Пімен Хмялеўскі; Іосіф — Мітрапаліт Алма-Ацінскі й Казахстанскі; епіскап Максім Кроха, украінец, з Беларусі быў прызваны да высокага служэньня ў Аргентыну; наш архіепіскап Мінскі й Беларускі Антоні Мельнікаў, хоць і радзіўся ў Маскве й нацыянальнасьці рускай, ужо шмат гадоў прайходзіць сваё служэньне ў Беларусі й ня чуе сябе на чужыне; Віталі Баравой — былы прадстаўнік у Сусьветнай Радзе цэркваў, а цяпер настаяцель патрыяршага Багаяўленскага Сабору й прафэсар Маскоўскай духоўнай акадэміі (у Амэрыцы ён добра ведамы, як агітатар за савецкую ўладу, затое нічога ня чуваць было з яго духоўнай місіі — Рэд.); Дымітры Агіцкі — былы настаўнік Менскай духоўнай сэмінарыі, цяпер прафэсар Маскоўскай духоўнай акадэміі; Канстантын Скурат — самы маладзейшы прафэсар Маскоўскай духоўнай акадэміі, таксама з Менскай духоўнай сэмінарыі, як і дацэнт Мікалай Рычко — сакратар прадстаўніцтва Рускай праваслаўнай царквы пры Сусьветнай Радзе Цэркваў у Жэневе; пратаерэй Пётр Раіна — прадстаўнік маскоўскага патрыярха пры Александрыйскім патрыярху ў Эгіпце; Віктар Бакарэвіч — настаяцель Нікольскага Сабору ў Вене; ведамы ў хрысьціянскім сьвеце барацьбіт за мір Паўла Сакалоўскі, які скончыў Менскую духоўную сэмінарыю і ў Беларусі пачаў сваё служэньне, якое прывяло яго ў Маскву. Там ён працаваў да свайго прадчаснага скону, выконваючы самыя адказныя даручэньні патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі”. — Не падаўшы прычыны прадчаснага скону пратаерэя Сакалоўскага і ўспамянуўшы аднаго толькі сьвятара на Беларусі — гэта настаяцеля Нясьвіскай царквы на Меншчыне Дымітра Хмеля, пратаерэй Вайтовіч кончыў пералік.

Значыць епіскапа Беларуса на сваёй Бацькаўшчыне няма ніводнага, як і наагул — ніводнага, апрача стаўленіка Масквы, названага архіепіскапам Мінскім і Беларускім.

Пра Архіепіскапа Антонія — Менскага й Беларускага — прат. Вайтовіч піша: — „Кіраўнік Менска-Беларускай епархіі Архіепіскап Антоні — удзельнік Беларускага камітэту абароны міру, сябра Таварыства дружбы СССР — Японія, а па лініі царкоўнай ён нясе паслушаньне, як удзельнік Сынадальнай камісіі Міжхрысьціянскага адзінства. Ён сябра камісіі „Усясьветная місія і эвангелізацыя” пры Сусьветнай Радзе цэркваў і сябра камітэту „Царква й жыдоўскі народ”. Царкоўны журнал „Богословские труды” выдаецца ў Маскве пад яго рэдакцыяй”.

Часапіс „Религия й атеизм в СССР” — штомесячны агляд (Мюнхен, чырвень, 1973 г., Но. 6), падае некаторыя весткі з Беларусі: „У 30-х гадох тут, як і на Ўкраіне, Беларуская Царква была разгромлена. Адраджэньне яе пачалося пры нямецкай акупацыі. Цяпер яе жыцьцё паралізавана, як паралізавана і ўсё вольнае жыцьцё народу. Партыйнае кіраўніцтва, складзенае тут з найбольш вывераных камуністаў, асабліва ўважна сочыць за кажнай праявай народнага жыцьця. Калі гэты народ навет у суворых умовах нямецкай акупацыі змог выявіць свае нацыянальныя ідэалы і пачаць стварыць сваю гаспадарстваваcьць, значыць і цяпер гэтыя ідэалы жывуць і могуць выявіцца пры найменшым паслабленьні дыктатуры. Дык дыктатура тут асабліва жорсткая.

„Мясцовая праваслаўная Царква падпарадкавана царкоўнаму цэнтру ў Маскве. З 1944 г. яе ўзглаўлялі архірэі Маскоўскай Патрыярхіі. Іх тут ставілі не надоўга. Іншыя, якія пасьлядоўна сюды вызначаліся: мітрапаліт Пітырым (Сьвірыдов), архіепіскап Нікадым (Ротов), Сергій (Петров) і цяперашні архіепіскап Антоні (Мельніков) — актыў Маскоўскае патрыярхіі ў яе вонкавапалітычных абавязках. Цяперашні першагерарх Антоні большую частку часу праводзіць у замежных камандыроўках: Эфіопія, Уганда, Кенія, Танзанія, Мальгашская Рэспубліка, Японія, Краі Заходняе Эўропы й Бліжняга Ўсходу. Нягледзячы на гэта вікарнага епіскапа ў Беларусі няма... За апошнія 4 гады толькі ў трох нумарох „Журналу Маскоўскай Патрыярхіі” паведамлялася пра архірэйскія аб'езды прыходаў епархіі. Адтуль можна было даведацца, якія храмы ў беларускіх гарадох і мястэчках яшчэ ўцалелі, і што рупнасьцю прыхаджанаў адрамантаваны толькі храмы Жыровіцкага манастыра й Пакроўскі Сабор у Горадне... У местах, якія наведваюць чужаземцы, як вядома, зачыненыя храмы звонку рамантуюць, каб захаваць для вока архітэктурны ансамбль мясцовасьці, а ў Беларусі й гэтага ня робяць. 50 прыходаў тут нядаўна пазбавілі сьвятароў. Яны былі „зьнятыя з рэгістрацыі”. Невядома, ці яны былі ў чым абвінавачаныя, ці гэта зроблена ў мэтах прымусовага зьліцьця колькіх прыходаў у адзін, што дасьць магчы-

### НАРАДА ЕПІСКАПАЎ

У днёх 3-га й 4-га сакавіка ў Дэтройце адбылася нарада Епіскапаў, Уладыкі Андрэя і Ўладыкі Мікалая, на якой былі разгледжаны бягучыя справы БАПЦарквы й вынесены важныя пастановы.

## АРХІЕПІСКАП СЭРАФІМ

### ПЕРШАГЕРАРХ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ Ў ГРЭЦЫІ

Сэрафім, Мітрапаліт Іонійскі, выбраны на Першагерарха Праваслаўнае Царквы ў Грэцыі. Выбары праводзіў вызначаны ўрадам спэцыяльны Вышэйшы Сынод у складзе 28-мі Епіскапаў з усіх 66-ці грэцкіх Епіскапаў.

На становішча першагерарха было тры кандыдаты: Мітрапаліт Сэрафім атрымаў 20 галасоў, Епіскап Дзіянісі 7 галасоў, а Епіскап Хрызастом адзін голас.

Нарадзіўся Архіепіскап Сэрафім у вёсцы Апрэсіяно. Багаслоўе студ'яваў у Атэнскім унівэрсытэце. У часе другое сусьветнае вайны браў удзел у падпольным змаганьні супроць немцаў. У сан Епіскапа быў пасьвячаны ў 1949 годзе.

Новы першагерарх — блізкі сябра генэрала Гізікіса, якому Сэрафім удзяляў прысягу на становішча Прэзыдэнта Грэцыі ў лістападзе 1973 г.

З нагоды свае інтранізацыі нававыбраны Першагерарх у прамове зазначыў, што галоўнаю ягонаю мэтаю будзе — ліквідацыя існуючых нялада у Грэцкай Царкве. Выдаючы заклік да падзеленага грэцкага Епіскапату Першагерарх заклікае Епіскапаў, „каб забыліся пра мінулае, а з любоўю абнялі адзін аднаго й гэтым вярнулі гэтак жаданы супакой у Царкве"; бо паміж грэцкімі Епіскапамі існуе непаразуменьне, якое яшчэ ўзмоцнілася пасьля ўрадавага дэкрэту, згодна якога 34 Епіскапы ня былі дапушчаны прымаць удзел у выбарах Першагерарха. Архіепіскап прырок унармаваць варожасьць паміж Епіскапамі, за свайго папярэдніка Героніма ўзьнёс шчырыя малітвы й зазначыў, што ўклад ягонае працы ацэніць гісторыя.

На ўрачыстай Інтранізацыі Сэрафіма быў і яго стары прыяцель — сучасны прэзыдэнт Грэцыі Гізікіс. Пасьля Інтранізацыі абодва прывіталіся абдымкамі й пацалункамі.

(Паводля: „Вісник", 1-га лютага 1974 г.)

---

масьць зьнішчыць ці перабудаваць неабслугоўваныя сьвятарамі храмы для гаспадарчых ці прапагандовых патрэбаў".

З усяго пададзенага відаць, што Беларускай Царквы, як арганізаванай адзінкі, на Беларусі няма — яна зруйнавана, а калі жыве, дык толькі ў сэрцах вернікаў. І якой-жа нахабнасьці трэба, каб цьвердзіць, што ў СССР царква аддзелена ад дзяржавы! І калі гэта цьвердзіць балышавіцкі агітпроп, то тут дзіва няма: агітпроп нідзе, ні ў чым і ніколі не гаворыць праўды, а толькі ілжу; але калі гэта падкрэсьлівае пратаерэй (Вайтовіч), то тут ёсьць над чым задумацца.

Царква-ж у СССР ня толькі не аддзелена ад дзяржавы, але ўшчэмлена ў дзяржаўныя кайданы й пераносіць сваю ГАЛГОФУ. На Беларусі-ж яна й вонкава абезгалоўленая: адзін епіскап і той на паслугах палітычнага агітпропу.

Пакуль што, на гэтым спынімся.



## КАЛІ ЗЬЯВІЛІСЯ СЛАВЯНЕ

З тым, што гісторыя нашых продкаў-славян пачынаецца ад старажытных часоў — згодны ўсе дасьледнікі. Але калі й дзе адбылося фармаваньне самых старажытных славянскіх плямёнаў, адкуль ішло іх расьсяленьне па прасторах Усходняй Эўропы — тут думкі вучоных разыходзяцца.

Старажытныя рускія летапісы сьведчаць, што пачаткова славяне жылі на Дунаі. Адтуль яны разышліся па тэрыторыі Цэнтральнай, Паўднёвай і Ўсходняй Эўропы. Цяпер вучоныя ў асноўным прытрымліваюцца тэорыі расьсяленьня славян з нейкай больш вузкай тэрыторыі. Толькі адны зь гісторыкаў лічаць, што першапачаткова славяне знаходзіліся не на Дунаі, а ў басэйне Віслы й Одэра, іншыя-ж даводзяць, што фармаваньне старажытных славян адбывалася ў міжрэччы Дняпра й Буга й на поўдні Беларусі. Паступова славяне падзяліліся на тры вялікія групы: заходнія — чэхі, славакі, палякі; паўднёвыя — сэрбы, харваты, баўгары; усходнія — продкі сучасных рускіх, украінцаў, беларусаў.

Для вырашэньня складаных пытаньняў паходжаньня славян не абысьціся бяз вестак з гісторыі засяленьня тэрыторыі нашай рэспублікі. Якія-ж людзі жылі тут прыкладна дзьве тысячы год таму назад. Ніводная пісьмовая крыніца ня можа адказаць на гэтае пытаньне.

Але ў паўночнай і сярэдняй Беларусі сустракаюцца сотні рэчак, назвы якіх паходзяць не ад славянскіх слоў, а ад кораняў, якія й зараз ёсьць у мове літоўцаў (лятувісаў — Рэд.) і латышоў. З гэтага вынікае, што пачаткова тут жылі балтыйскія плямёны. Потым сюды прыйшлі славяне, якія паступова асымілявалі балтаў. Гэта зусім відавочны факт, якога цяпер ніхто не адмаўляе.

Іншая справа — гісторыя насельніцтва паўднёвай часткі Беларусі (Гомельская, усходняя частка Берасьцейскай, поўдзень Магілеўскай вобласьцяў). Па-першае, назвы многіх рэчак басэйну Прыпяці — славянскія. Па-другое, тут распаўсюджаны археалягічныя помнікі (паселішчы й магільнікі), якія адрозьніваюцца ад помнікаў раньняга жалезнага веку ў паўночнай і сярэдняй Беларусі. У першую чаргу гэта адносіцца да так званай зарубінецкай археалягічнай культуры (II стагодзьдзе да нашае эры — II стагодзьдзе нашае эры).

Дасьледваньню гэтай археалягічнай культуры прысьвечана кніга беларускага археалёга, кандыдата гістарычных навук Л. Побаля — „Славянскія старажытнасьці Беларусі. Магільнікі раньняга этапу зарубінецкай культуры" (выдавецтва „Навука і тэхніка", Мінск, 1973).

Рэшткі зарубінецкай культуры былі знойдзены ў дарэвалюцыйныя часы на Ўкраіне каля вёскі Зарубінцы, адтуль і пайшла назва культуры. Затым дасьледчыкі вызначылі, што такія помнікі распаўсюджаны на значнай частцы паўночнай Украіны і ў паўднёвай Беларусі. Паселішчы звычайна знаходзяцца на стромкіх берагох рэк ці яраў. Насельніцтва гэтых паселішчаў займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Многа розных рэчаў — упрыгожаньняў, рэчаў хатняга ўжытку, зброі — знайшлі археалёгі ў пахаваньнях. Цела памёршага зарубінцы спальвалі на вогнішчы, і сабраныя рэшткі зьмяшчалі ў невялікую ямку, куды клалі „на той сьвет" таксама розныя рэчы. Гэта былі грунтавыя бяскурганныя пахаваньні, так званыя „палі пахаваньняў".

Вельмі цікавы камплекс археалягічных помнікаў (гарадзішча, неўмацаванае паселішча, грунтавы магільнік) знойдзены каля вёскі Чаплін, Лоеўскага раёну на Гомельшчыне. Л. Побаль правёў тут значныя археа-

### СУПОЛЬНАЯ МАЛІТВА Ў НЯДЗЕЛЮ ПРАВАСЛАЎЯ

Прыкладам папярэдніх год Беларусы і Ўкраінцы ў гэтым годзе адзначылі ўрачыста Дзень Праваслаўя, але ўжо ня ў Кліўленьдзе, а у Дэтройце.

Трэйцяга сакавіка Ўладыка Андрэй разам з украінскімі сьвятарамі, прат. айцом Хведарам і прат. айцом Сьцяпанам, прыехалі ў Дэтройт да Настаяцеля Ўкраінскае Царквы а. Нестара. У міжчасе згодна дамоўленасьці прыехаў і Ўладыка Мікалай з сваімі парафіянамі.

Ужо а гадзіне 6:30 даволі вялікая царква Сьв. Пакровы была перапоўнена вернікамі.

Пачатак вячэрні асьвяціў Уладыка Андрэй супольна з Уладыкам Мікалаем, і ў суслужэньні ўкраінскіх сьвятароў, 6-ці прыслужнікаў і даволі лічнага мэлёдыйнага хору распачалася Багаслужба.

Зьмястоўную казань на тэму дня перамогі Праваслаўя сказаў Уладыка Мікалай у беларускай мове, а прат. Хведар у ўкраінскай мове. Сынодыкум прачытаў Уладыка Андрэй і на заканчэньне Багаслужбы прывітаў ветлымі словамі малельнікаў.

Настаяцель Парафіі а. Нестар запрасіў усіх прысутных на супольную вячэру, якую прыгатавала вельмі эфектоўна Сястрыцтва Парафіі.

У часе застольнае бяседы прамаўлялі прадстаўнікі ад украінскага й беларускага грамадзтва. У прамовах адзначалася супольнае рэлігійнае й грамадзкае змаганьне Беларускага і Ўкраінскага Народу ў мінулым і сучаснасьці й дамэтнасьць супольна праводзіць далейшую барацьбу за ўмацаваньне сваіх Цэркваў.

---

лягічныя раскопкі. Чаплін — адзін з найлепш вывучаных археалягічных помнікаў зарубінецкай культуры. Адных толькі пахаваньняў тут раскапана 282. У іх знойдзена 277 рэчаў з гліны, шмат нажоў, бранзалетаў, пярсьцёнкаў, звыш 1100 шкляных пацерак, якія трапілі на тэрыторыю Беларусі з грэцкіх старажытных гарадоў. Многія рэчы ўпрыгожаны арнамэнтам і ўяўляюць цікавасьць для вывучэньня гісторыі старажытнага мастацтва.

Усе гэтыя матарыялы Л. Побаль дэталёва, старанна вывучыў, сыстэматызаваў і растлумачыў у кнізе, у канцы якой прыкладзены сьпіс і карта помнікаў зарубінецкай культуры на тэрыторыі Беларусі. Тут пералічана 916 помнікаў. Многія з іх адкрыў сам аўтар.

Л. Побаль не абыходзіць спрэчнага пытаньня, якім плямёнам належала гэтая культура. Некалькі год назад маскоўскі дасьледчык В. Сядоў выказаў меркаваньне, што зарубінецкая культура належала балтам, продкам сучасных літоўцаў і латышоў. Л. Побаль слушна аспрэчвае гэта й лічыць зарубінецкія плямёны славянскімі. Дарэчы, пра гэта сьведчаць ня толькі археалягічныя дадзеныя, але й лінгвістычныя дасьледваньні, якія ў апошні час праведзены на Палесьсі.

Надрукаваныя выяўленчыя матарыялы, якія даюць уяўленьне формаў і дэкору раньняй славянскай керамікі, упрыгожаньняў і рэчаў хатняга ўжытку, могуць быць шырока выкарыстаны пры вывучэньні вытокаў станаўленьня й фармаваньня беларускага нацыянальнага арнамэнту, паходжаньня, ужываньня й распаўсюджаньня асобных формаў у дэкаратыўна-прыкладным мастацтве Беларусі ў наступных стагодзьдзях.

Кніга Л. Побаля — значны ўклад у распрацоўку праблемы гісторыі старажытнага насельніцтва Беларусі й паходжаньня славян.

**(Паводля: „Голас Радзімы" № 26, чырвень, 1973 Менск)**



# ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ

**(У другія ўгодкі сьмерці А. Др. Віктара Войтанкі)**

Мінае другі год, як адыйшоў ад нас у вечнасьць Айцец Доктар Віктар Войтанка. Сьмерць спасьцігла раптоўна й нечакана на 61-ым годзе жыцьця. Ён-жа так хацеў жыць між нас і працаваць для дабра нашае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й для дабра ўсяго нашага народу. Сумныя ўгодкі, сумная, але адначасна й сьветлая памяць, не даюць супакою, каб не памянуць Яго шчырым словам і ня ўспомніць пра ягоную слаўную дзейнасьць ад зараньня ягонага жыцьця да апошняга дня. Гэты ўспамін — з нагоды пасьвячэньня пастаўленага ягонай сям'ёй арыгінальнага помніку на магіле, з так адпаведнымі словамі Янкі Купалы:

Служыць, служыць жадаў народу,
Сваім закованым братом...
І сіл нястала з непагодай
Вясьці вайну, вясьці з жыцьцём.

Сьвятой памяці, Айцец і Доктар Віктар займаўся шырокай дзейнасьцяй у розных праявах нашага нацыянальнага жыцьця для высокароднай мэты — поўнага нацыянальнага адраджэньня й нацыянальнай, а ў тым і царкоўнай незалежнасьці. Гэта былі яго найпаважнейшыя жаданьні, і гэтаму аддаваў свае сілы й здольнасьць.

Закончыўшы мэдыцынскую навуку й атрымаўшы права доктара, Ён сваю дакторскую працу, якая станавіла матарыяльную падставу да жыцьця, заўсёды спалучаў з грамадзка-нацыянальнай дзейнасьцяй, аддаючы ёй ня менш увагі, як прыватнаму жыцьцю. Зацікаўленьня, энэргіі, рупнасьці й дбаласьці ў яго хапала на розныя справы, як у жыцьці прыватным, так тым ня менш у жыцьці грамадзкім, як таксама й для выкананьня пастаўленых заданьняў.

Доктар Віктар Войтанка быў адным з найбольш ініцыятыўных дзеячоў пры скліканьні царкоўнага Сабору ў 1942 г. у Менску й аднаўленьні разбуранай бальшавікамі нашай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. Таксама, пасьля асірочаньня Б.А.П.Царквы на эміграцыі, найбольш спрычыніўся да паўторнага яе аднаўленьня ў Канстанцы у Зах. Нямеччыне ў 1948 годзе.

У Амэрыку Др. Войтанка пераехаў з сям'ёй у 1950-ым годзе, дзе таксама здабыў ліцэнзію на права лякарскае. І па сьмерці свайго бацькі, прат. аерэя Айца Сьцяпана, пастанавіў прыняць сьвятарскі сан і спалучыць працу сьвятарскую духоўную з працай лякарскай, што між сабою вельмі добра спалучаецца. І прыняўшы сан сьвятарскі, апошнія годы свайго жыцьця прысьвяціў нашай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Шмат стараньняў прылажыў Айцец Віктар, каб мову Багаслужбаў перавясьці на сваю родную. Гэта, аднак, сталася ўжо не пад сілу. Угодна было Богу паклікаць Яго да вечнасьці.

Вялікая й дарагая ў маёй сьведамасьці памяць аб ім, успамінаючы Яго сёньня ў другія ўгодкі, яшчэ над сьвежай магілай пры помніку, які паставіла ўдзячная сям'я, як дарагую памятку.

**Прыяцель**

## СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ ЛЯВОН САВЁНАК

21-га лютага 1974 г. на 77 годзе жыцьця скончыў свой жыцьцёвы шлях Лявон Савёнак, настаўнік, журналісты й палітычны дзяяч.

Нарадзіўся Лявон Савёнак 26 чырвеня 1897 г. у Глыбоччыне. Скончыў Маладэчанскую Настаўніцкую Сэмінарыю ў часе Першае сьвятовае вайны, ужо на эвакуацыі ў Смаленску. У 1920-ым годзе прыехаў у Менск, дзе разгарнулася ў той час беларуская нацыянальная праца, школьная й грамадзка палітычная. У Менску, пакуль была магчымасьць працаваць у сваіх нацыянальных установах, працаваў настаўнікам у школах, а потым — у газэце „Савецкая Беларусь", як журналісты.

У 1930-ых гадох, у часе бальшавіцкага разгрому беларускага нацыянальнага жыцьця й масовых арыштаў і зьняволеньня, Л. Савёнак быў арыштаваны й бяз ніякага абвінавачаньня й суду быў высланы ў ссылку ў Сібір. У ссылцы прабыў з 1933 г. па 1939 год. Па адбыцьці ссылкі працаваў настаўнікам у сельскіх школах, атрымаўшы забарону жыць у больших местах.

Напрыканцы Другой сьвятовай вайны эміграваў у Нямеччыну. У Нямеччыне прымае ўдзел у працы Рады БНР, супрацоўнічае ў газ. „Бацькаўшчына" ды іншых часапісах, таксама актыўна ўдзельнічае пры аднаўленьні БАПЦарквы й правядзеньні Сабору ў 1949-ым годзе ў Канстанцы. Быў дзейны адначасна, як настаўнік.

У 1950 г. Лявон Савёнак прыбыў у ЗША, дзе некаторы час працаваў у беларускіх арганізацыях і, як журналісты, у газ. „Беларус". Астатнія годы свайго жыцьця пражыў у вясковых абставінах, на невялікім зямельным аб'екце ў штаце Нью Джэрсі. Памёр у месьце Памона, таго-ж штату.

Пакінуў асірочанымі жонку Апалёнію й дачку Зою з сям'ёй.

25-га лютага Лявон Савёнак пахаваны на беларускіх магілках у Іст Брансьвіку, Нью Джэрсі.

Супакой Ягонай душы.

## СВЯТОЙ ПАМЯЦІ ВАСІЛЬ АРХЫМЭНКО

3-га сьнежня 1973 году на 73-м годзе жыцьця адыйшоў на вечны супачынак Васіль Ахрымэнко. Быў пабожным праваслаўным вернікам. Належаў да складу Парафіяльнае Рады Жыровіцкае Божае Маці БАПЦарквы ў Манчэстэры. Карыстаўся вялікаю пашанаю ня толькі, як парафіянін, але як палымяны казацкі патрыёт і шчыры прыяцель Беларусаў. Чын паховінаў выканаў прат. а. Я. Абабурка у аўторак 8-га студзеня сёлета. Ліція па нябожчыку была адпраўлена ў яго доме, а адпяваньне ў БАПЦаркве. Над магілаю пачуцьцёвае казаньне сказаў а. Абабурка, у якім зазначыў, што казакі страцілі вялікага патрыёта, а мы Беларусы шчырага парафіяніна й прыяцеля. Аб ягонай папулярнасьці сьветчыць той факт, што нягледзячы на працоўны дзень, аддаць апошнюю пашану нябожчыку сабралася вялікая грамада людзей.

Сьв. памяці Ахрымэнко пакінуў жонку Аляксандру, якая пасьля пахаваньня замовіла памінальныя абеды для ўсіх ўдзельнікаў паховін.

Няхай у супакоі супачывае ў прытульнай зямлі Ангельскай.

М. Яськевіч



## СЬВЯТОЙ ПАМЯЦІ МІКАЛАЙ ДАРАШЭВІЧ

Дня 6-га лютага, 1974 г., пасьля кароткатрывалай але цяжкой хваробы й колькіх апэрацыяў, аддаў душу Богу адзін з выдатнейшых нашых парафіянаў, фактычна адзін з закладчыкаў Парафіі БАПЦ пры Катэдральным Саборы сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, б. прафэсар вышэйшых школаў у Беларусі, Мікалай Дарашэвіч.

Сьв. п, праф. Дарашэвіч нарадзіўся 8-га ліпеня 1898 г. у Менску, у сям'і машыніста. У 1926 г. канчае ён Сельска-Гаспадарчую Акадэмію ў Горы-Горках у галіне лесаводзтва. Да 1932 г. працуе асыстэнтам у тэйжа Акадэміі. У 1932 г. ён ужо старшы навукова-дасьледчы працаўнік Інстытуту Сельскай Гаспадаркі ў Менску і, як такі, бярэ ўдзел у многіх навуковых экспэдыцыях па Беларусі, у Карэлію, на сярэднюю Волгу. Адмова ўступіць у камуністычную партыю моцна пашкодзіла ягонай кар'еры: з васьмі большых навуковых працаў, пра якія ён успамінае ў сваей аўтабіяграфіі (з 1950 г.), ніводная ня была выдрукаванай, хоць і карысталіся імі ў навукова-дасьледчай працы.

Памяць гэтага сьціплага інтэлігента, шчырага сына беларускага народу й Беларускай Царквы, будзе жыць сярод суродзічаў, бо быў ён ня толькі выдатным вучоным, але чалавекам высокай асабістай культуры, вялікім гуманістым, глыбока закаханым у паднявольны край сваіх дзядоў-прадзедаў, за лёс якога ён хварэў душою.

Няхай будзе яму лёгкай зямля Амэрыканская.

# ХРОНІКА

## ВЕСТКІ З КЛІЎЛЕНДУ

### ПРЫНЯЦЬЦЕ ПРАВАСЛАЎЯ

Другога лютага сёлета на асабістае жаданьне Вольгі Дубаневіч, якая была ахрышчана ў Нямеччыне ў каталіцкім абрадзе, у прысутнасьві яе бацькоў і сястры, Уладыка Андрэй перавёў яе ў праваслаўе і ўдзяліў ёй Таінства Мірапамазаньня. Хроснаю маткаю была Адыле Балдун.

А 16-га лютага адбыўся шлюб Вольгі Дубаневіч з Янам Дэрмотт. Таінства шлюбу ўдзяліў Мітрапаліт Андрэй у суслужэньні дыякана Міхаіла з удзелам хору пад кіравецтвам рэгента бр. Кііслага. У часе выкананьня абраду шлюбу Сабор Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўна Царквы ў Кліўленьдзе быў па берагі перапоўнены людзьмі. Маладую да шлюбу падводзіў бацька Аляксандар Дубаневіч. Была прысутнаю й маці маладога, айчым і вельмі лічная ягоная радня. Прыгожы праваслаўны абрад шлюбу, прыгожыя строі маладое й дружак захаплялі ўсіх прысутных у часе выкананьня шлюбу.

На месцы тут будзе адзначыць, што абое сужонкі закончылі вышэйшыя школы й маюць цяпер працу згодна свайго фаху.

***

У сыботу 26-га студзеня ў парафіяльнай залі адбыўся банкет з нагоды заручынаў сына дыякана Страпко Уладзімера з дачкой с-ва Занкавіч.

На банкет былі запрошаны ня толькі ўсе парафіяне, але й знаёмыя, а таму на залі навет нехапала месца для ўсіх запрошаных. Будучае сужэнства пры ўваходзе на залю было спатканае з музыкаю. Банкет прайходзіў у вясёлым настроі й прысутныя абдарылі сужонкаў багатымі падарункамі.

**

Трэйцяга лютага, згодна традыцыіі папярэдніх год, Парафіяльная Рада наладзіла пачастунак для ўдзельнікаў хору. Прамовы пра значэньне царкоўнага хору й бадзёрыя песьні харыстых сьветчылі, якую важную ролю адыгрывае мелёдыйны хор, узбуджаючы малітвены настрой сярод вернікаў.

**

10-га лютага адбыўся звычайны Перавыбарчы Сход Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе. У склад Рады ўвайшлі сябры з папярэдняе Рады з невялікімі зьменамі.

**

17-га лютага з нагоды ад'езду маткі дыякана Страпко, якая прыяжджала з Беларусі адведаць сына, пасьля сьв. Літургіі быў адпраўлены Малебен за шчасьлівы яе паварот на Радзіму, а пасьля на запросіны сям'і дыякана ўсе сабраліся ў парафіяльнай залі на пачастунак, прыгатаваны гсападарамі вельмі дбайліва й эстэтычна. У часе пачастунку прамоўцы жадалі для ад'яжджаючае шчасьлівага падарожжа, выказвалі радасьць з прыезду й спатканьня з сынам пасьля 35-ці гадовае разлукі, і жаль, што абставіны змушаюць ізноў вяртацца ў краіну няволі й рэлігійнага гвалту.

Ня можна моўчкі абмінуць і таго, што маці дыякана адзначалася асабліваю рэлігійнасьцю, пра што сьветчыць факт яе шчырага маленьня ў часе Багаслужбы, стоячы на каленях; а пры разьвітаньні з усімі выказала зьдзіўленьне, што Беларусы на эміграцыі слаба наведваюць сваю царкву.

## ПАРАФІЯ БАПЦАРКВЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ

25-га лістапада 1973 г. Мэльбурнская Парафія сьв. БАПЦарквы ўрачыста адзначала 53-я ўгодкі Слуцкага Паўстаньня. Па заканчэньні сьв. Літургіі была адслужана Паніхіда па суродзічах — усіх тых, хто аддалі жыцьцё за Бацькаўшчыну-Беларусь. Настаяцель а. Аляксандар у сваім слове прыпомніў прысутным пра вялікі ўклад нашых суродзічаў на Алтар Бацькаўшчыны ў мінулым ды ў няроўным змаганьні ў сучаснасьці.

Па заканчэньні Багаслужбаў захадамі Сястрыцтва быў наладжаны ў прыцаркоўнай залі традыцыйны багаты пачастунак — супольны абед, які ў шчырай гутарцы ды сяброўскай прыязьні працягваўся да позьняга вечара. Прысутныя мелі нагоду сутрэцца й вітаць нашага прыяцеля а. Сьцяпана з Матулькай.

**

У Сьв. Вечар (перад Калядамі) гурток парафіяльнае моладзі — калядоўшчыкі, пад кіравецтвам сястры Тамары адведалі суродзічаў, абвяшчаючы Нараджэньне Хрыстовае сьпевам калядкаў. Як і ў мінулыя гады Юнакі й Юначкі — калядоўшчыкі, апранутыя ў нацыянальную вопратку, ды з упрыгожанай Зоркай, зрабілі вельмі прыемнае ўражаньне. Пры ўмелым кіравецтве, добра сасьпяваныя, з дапамогай акардыёна, сьпевакі выклікалі падзіўленьне ў суродзічаў, якія наўзаем іх ня толькі міла віталі ды складалі добрыя пажаданьні, але й шчодра ўзнагароджвалі.



**

7-га студзеня 1974 г. стараньнямі Сястрыцтва супольна з Парафіяльнай Радай была наладжана ЯЛІНКА — супольны вечар для моладзі й дарослых. Вечар адбыўся ў добра ўпрыгожанай усім ведамай залі. Ведама, для маладзейшых найгалаўнейшую частку ўчыніў Дзед Мароз. Ёнжа, пасьля забавак і гутарак з дзяцьмі, надта ўжо шчодра абдорваў іх падарункамі, цукеркамі ды рознымі ласункамі. Сьпевакі-калядоўшчыкі з упрыгожанай Зоркай ды запаленымі сьвечкамі ў руках (сьвятло было згашана) прывіталі сабраных сваім цудоўным сьпевам — Ціхая Ноч, Неба й Зямля ды паангельску "O Come, o You Faithful".

Пры сталох, запоўненых рознымі стравамі ды пітвом, пры вясёлай музыцы й гульнях, танцах ды песьнях незаўважана надыйшла поўнач — час разыйходзіцца. Хочацца верыць, што падобныя вечары будуць часьцейшымі, пра што падбае Сястрыцтва супольна з Парафіяльнаю Радаю.

**

Паводля нашага звычаю, за прыкладам мінулых год, а. Аляксандар, кіраўнік Парафіі БАПЦ, наведаў хаты суродзічаў з Йарданскай вадою. З прыемнасьцю трэба адцеміць, што бальшыня нашых суродзічаў добра памятаюць нашыя багатыя традыцыі й звычаі, а таму міла віталі свайго Настаяцеля ў часе наведваньня й выкананьня гэтага славы-годнага чыну.

**

28-га студзеня — Дзень Аўстраліі — Нацыянальнае Дзяржаўнае Сьвята. Дзень, вольны ад штодзённай працы, сябры Парафіі БАПЦарквы ў Мэльбурне схацелі выкарыстаць, як дзень разрыўку — „пікнік". Дзеля таго, каб адпачынак быў запраўдным сямейным адпачынкам, с-ва Іван і Галіна пасулілі, каб месцам адпачынку была іхная фарма, што знаходзіцца блізу 50 міляў ад Мэльбурну. Запросіны ахвотна былі прынятыя. А гадзіне дзясятай рана рад перапоўненых самаходаў рушыў у кірунку фармы. Іван і Галіна, уласьнікі фармы, вітаюць гасьцей, даюць у поўнае карыстаньне абсаджаны вялікімі дрэвамі, акуратна дагледжаны прасторны панадворак з раскошнаю хатай і ўсімі выгодамі. Руплівасьць гаспадыні да пачастунку ,а гаспадара да прыемнага праводжаньня часу, не маглі быць лепшымі. Надвор'е, нібы на замоўленьне, — цудоўнае. Зразумелая рэч, што ўдзельнікі „пікніку" ня хутка забудуць супольны дзень адпачынку, ды не бяз прычыны, бо ў запраўднасьці гэткіх удалых выправаў у нашай Парафіі яшчэ не здаралася. А гаспадаром Івану й Галіне належыць шчырае беларускае — дзякуй!

**

Нядзеля 24 лютага лічыцца ў Аўстраліі як „Нядзеля Эмігранта". З гэтае нагоды а. Аляксандар пасьля Багаслужбы прачытаў абежнік Міністра Эміграцыі ў Аўстраліі А. Й. Грассбы. Ліст Міністра эміграцыі быў разасланы й чытаўся ўва ўсіх цэрквах на гэтым кантынэньце. У абежніку дакладна насьветлены ўклад „эмігранта" ў зьмест сацыяльнага, рэлігійнага й культурнага жыцьця гэтае краіны.

## З ЖЫЦЬЦЯ БЕЛАРУСАЎ У МАНЧЭСТЭРЫ — АНГЛІЯ

Гадавіну Слуцкага збройнага чыну Беларусы ў Манчэстэры й ваколіцы ўрачыста адзначылі ў нядзелю 25-га лістапада 1973 г.

Пасьля Сьв. Літургіі пратаерэй а. Іван Абабурка ў царкве Жыровіцкае Божае Маці адправіў Паніхіду па загінутых Случчаках, якія аддалі жыцьцё ў змаганьні за Незалежную Беларускую Дзяржаву, і сказаў па-

трыятычную казань, прысьвечаную загінутым Случчаком.

Акадэмія адбылася ў царкоўнай залі. Адчыніў акадэмію старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ Х. Кажаневіч, прапануючы ўшанаваць памяць хвілінай цішы тых, якія аддалі жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына.

Рэфэрат пра збройны чын Случчакоў прачытаў скарбнік аддзелу ЗБВБ П. Шыркоўскі. Рэфэрат быў вельмі старанна апрацаваны; у заканчэньні прэлегент зазначыў, што Случчакі былі сьведамыя таго, што цяжка будзе абараніць Маладую Беларускую Народную Рэспубліку ад непараўнальна лічнейшага ворага без падтрымкі звонку ды будучы слаба ўзброенымі, але ўсё-ж паказалі свой гераізм і далі прыклад, як трэба змагацца за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем гімну „Сьпі пад курганам герояў".

***

У сыботу, 29 сьнежня 1973 году ў Царкоўнай залі была ладжана для дзяцей ялінка. Арганізацыйнай часткай і падрыхтоўкай занялася сястра Кляра Кажаневіч з дачкою Нірванай. Імпрэза прайшла ўдала, а дзеці былі асабліва задаволенымі, як атрымалі ад Дзеда Мароза падарункі. Каля ялінкі сабралася каля 50 дзяцей. За ўмелае арганізаваньне імпрэзы належыцца шчырая падзяка Кляры й яе дачцы Нірване ды Дзеду Марозу — Д. Кавані.

***

Сьвяткаваньне Праваслаўных Калядаў у Манчэстэры адбылося ў панядзелак 7-га студзеня 1974 г. А гадзіне 10:30 пасьля Божае Службы прат. а. Іван прачытаў Архіпастырскае Пасланьне Герархаў БАПЦарквы, і ад сябе прывітаў з сьвятам Нараджэньня Хрыстовага.

Адразу пасьля Багаслужбы ў прасторнай і прыгожа ўдэкараванай Царкоўнай залі адбыўся супольны абед. Усе прысутныя прасьпявалі тропар сьвята, а прат. а. Іван асьвяціў ежу. Застольную бяседу пачаў старшыня Парафіяльнае Рады Х. Кажаневіч. Пасьля спажыцьця патраваў пад гукі акардыёну распачаліся гульні, пераплятаныя сьпевамі беларускіх калядак.

Дзякуючы захадам Матулькі Кацярыны Абабуркі, і сёстраў Ніны Радух і Вары Гінко, сталы й ежа на іх запраўды былі прыгатаваныя пасьвяточнаму, за што ім належыць шчырая падзяка. Асаблівая падзяка зложана Ніне Радух ад Парафіяльнае Рады й вернікаў Парафіі за ахвяраваныя прыгожыя дываны для царквы.

Сабраныя 25.65 ангельскіх фунтаў, як заплату жанчынам за прыгатаваньне абеду, жанчыны пераказалі на Царкву.

**М. Яськевіч**

## З ПАРАХВІІ БАПЦАРКВЫ БОЖАЕ МАЦІ ЖЫРОВІЦКАЕ Ў ГАЙЛЭНД ПАРК, НЬЮ ДЖЭРСІ

У дзень 20 студзеня, 1974 году, адбыўся Агульны Гадавы Перавыбарчы Сход Парахвіі. Пасьля супольнае малітвы на Старшыню Сходу праз аклямацыю быў выбраны а. Аляксандар, а на Сакратара В. Стома.

Пасьля выслуханьня справаздачаў Парахвіяльнае Рады й Кантрольнае Камісіі, Сход вынес уступаючай Радзе абсалютарыюм з падзякай і перавыбраў яе ў поўным складзе на наступную кадэнцыю. Згодна гэтага ў новую Пар. Раду увайшлі: Мікалай Войтанка — Старшыня, Міхась Сільвановіч — Заступнік Старшыні, інж. В. Русак — Сакратар, Аўген Лысюк — Скарбнік, Міхась Януш — Стараста. Ў Кантрольную й Інвэнтарную Камісію перавыбраны: — П. Кажура, П. Швэд, Я. Азарка, А. Дубяга й В. Стома.



Сход закончыўся супольнай малітвай.

***

17-га лютага Парахвіяльная Рада ладзіла „запусныя бліны", на якіх прысутныя мелі нагоду паласавацца традыцыйнымі запуснымі стравамі, а ў касу ўплыло пару сотак даляраў.

У нядзелю 17 сакавіка адбыўся банкет, на якім а. Пратаерэй В. Кендыш афіцыйна перадаў Парахвію новаму а. Аляксандру Яноўскаму.

Банкет быў спалучаны з іншай урачыстасьцяй, а менавіта — з днём народзінаў нашай найстарэйшай парахвіянкі Матулькі Філямэны Войтанка, якой споўнілася 93 гады. Хоць за посньмі, але багата застаўленымі сталамі, прысутныя прыемна правялі час і таксама крыху папоўнілі парахвіяльную касу.

## ПАРАФІЯ СЬВЯТОЙ ТРОЙЦЫ Ў ДОРАТЫ, НЬЮ ДЖЭРСІ

Парафія Сьвятой Тройцы ў Дораты была заснаваная ў верасьні 1973 году. Настаяцелем прызначаны быў а. Карп Стар, былы настаяцель Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне Нью Ёрскім. Найбліжэйшымі памочнікамі а. Карпа, пры арганізацыі парафіі, былі: Дымітр і Матрона Юркоўскія, Марыя Нігавора, Фёдар і Тацьцяна Марыноўскія з сынамі Мікалаем і Анатолем і інш. Настаяцель парафіі а. Карп паказаў вялікую ахвярнасьць і цярплівасьць, перамагаючы цяжкасьці, і з Божаю дапамогаю Парафія ўмацоўваецца. Ужо даходзіць да канца рамонт кватэры ў царкоўным будынку, куды перабярэцца а. Карп на сталае пражываньне.

24-га лютага сёлета быў адзначаны дзень народзінаў аднагадовае ўнучкі сужэнства Марыноўскіх — Тацьцяны, які быў спалучаны з запускамі Парафіі. Пасьля Божае Службы быў наладжаны абед у царкоўнай залі, у якім прынялі ўдзел парафіяне й амэрыканскія госьці.

У гэтую-ж нядзелю была адслужана Вячэрня Дараваньня, і такім чынам Парафія ўступіла ў Вялікі пост.

Рыхтуючыся да першага сьвята Ўваскрасеньня Хрыстовага, Парафія набыла новую Плашчаніцу.

**Парафіяльная Рада**

---

## ЗЬМЕНЫ Ў ПАРАФІЯХ БАПЦ

Загадам Уладыкі Мітрапаліта Андрэя з 12-га лютага 1974 году, Пратаерэй Васіль Кендыш з Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрсі, пераведзены на становішча кіраўніка Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, Нью Ёрку.

Настаяцелем Парафіі Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парк, Нью Джэрзі, прызначаны а. Аляксандар Яноўскі.

## У ПАРАФІІ СЬВЯТОГА КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА Ў БРУКЛІНЕ

Парафія БАПЦарквы імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне, штату Нью Ёрк, хаця й невялікая, пасьпяхова прадаўжае рэлігійную дзейнасьць. З ласкі Божае, Сьвята Хрыстовага Нараджэньня прайшло вельмі ўрачыста. 6-га студзеня, паводля новага стылю, пасьля Вялікага Павячэр'я, была зладжана супольная Куцьця, якая прайшла ў надзвычай мілым настроі. Смачныя традыцыйныя патравы, сяброўскія гутаркі, калядкі, віншаваньні былі зьместам куцьці, а прачытаны ліст з Бацькаўшчыны, прысьвечаны Калядам, узрушыў многіх да сьлёз.

Праз усе Калядныя Сьвяты і ў кажную нядзелю служыць у Царкве Сьв. Кірылы Тураўскага Пратаерэй айцец Васіль Кендыш, які афіцыйна назначаны настаяцелем Парафіі з дня 12-га лютага 1974 г., хоць-жа пачаў служыць у Катэдральным Саборы ў верасьні 1973 г.

На заклік Настаяцеля й Парафіяльнае Рады парафіяне й суродзічы Нью Ёрку шчодра адгукнуліся з калядным ахвярамі, якіх сабрана ў суме 480 даляраў, і ахвярамі на рамонт царкоўнага будынку ў суме 1,454 даляраў. Усім ахвярадаўцам ад імя Парафіі шчырая падзяка.

Пасьля Вадохрышча а. Васіль наведаў парафіянаў з Сьвятою Вадою. Шкада толькі, што не да ўсіх мог заехаць з прычын ад яго незалежных. Трэба шчыра прызнаць вялікую ахвярнасьць, адданасьць і вытрываласьць а. Васіля ў службе Сьвятой Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве. Жывучы 150 міль ад Нью Ёрку, ён у кажную сыботу прыбывае ў Царкву, а ў нядзелю, пасьля Божае Службы, вяртаецца дадому. Парафіяне яму вельмі ўдзячныя. Такую-ж удзячнасьць мелі й маюць парафіяне айцу Карпу, які перад айцом Васілём, на працягу 3-ох год ахвярна й аддана служыў Парафіі, жывучы таксама на далёкай адлегласьці ад Нью Ёрку. Парафіяне аказалі а. Карпу значную матарыяльную дапамогу ў набыцьці Царквы ў Дороты, дзе ён цяпер настаяцелем Парафіі.

Парафіяльная Рада й Сястрыцтва аддана служаць Царкве, дбаюць каб усё было ў парадку, але цяжкасьцяў аднак нямала. Вялікі царкоўны будынак, у якім і Грамадзкі Цэнтр, вымагае паважных сродкаў на ўтрыманьне. Дасюль усялякая дзейнасьць выконваецца ахвярна, але гэта бывае панад сілы й магчымасьці невялікай колькасьці людзей, якія нясупынна служаць Царкве. На Божую міласьць патрэбная падтрымка й тых, хто ніяк, або мала аддаецца сваёй Царкве.

**Міхась Тулейка**
Старшыня Парафіяльнае Рады

## П А П Р А Ў К А

У папярэднім нумары „Голасу Царквы" зроблены апіскі ў ахвярах на куплю царквы ў Дороты, Н. Дж.:

1. Балеслаў Яновіч з парафіі ў Нью Ёрку ахвяраваў суму 100.00 дал., а падана ў часапісе 50.00 дал.

2. Александра Даніловіч з парафіі ў Гайлэнд Парк, Н. Дж. ахвяравала суму 50.00 дал., а яе прозьвішча ня зьмешчана.

Рэдакцыя перапрашае за гэтыя недакладнасьці.

PRINTED BY: EAST SIDE PRESS. 166 FIRST AVENUE. NEW YORK. N. Y. 10009